© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

20 – 26 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 6000 РУБЛЁЎ
№47 (187)

## АДНА ЗЯМЛЯ

АСТРАВЕЦ

## Польскі консул у Кямелішках



ФОТА АЎТАРА.

У Кямелішкі на тыдні завітаў генеральны консул Польшчы ў Гродне **Сільвестр Шостак**.

Мэтай яго візіту на Астравеччыну стала наведванне магіл салдат Арміі Краёвай, якія пахаваныя ў Варнянах на мясцовым могільніку. Там консул Сільвестр Шостак на кожнай магіле запаліў свечкі.

Затым шлях ляжаў у Кямелішкі. Ля Дома паляка яго сустрэлі хлебам–соллю, дзеці падчас канцэрта спявалі польскія песні, танцавалі.

У размове з кіраўніцтвам раённага і Кямелішкскага аддзяленняў Саюза палякаў консул віншаваў з 80–годдзем незалежнасці Польшчы, перадаў дзецям падарункі. Яго жонка **Тарэса** ўручыла юным кямелішцам польскую энцыклапедыю.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Смаргонскія следапыты

У адпаведнасці з загадам Старшыні Дзяржкамітэта пагранвойскаў генерал–лейтэнанта **Аляксандра Паўлоўскага**, на базе мясцовага пагранатрада тры дні праходзілі спартыўныя спаборніцтвы, у якіх бралі ўдзел пошукавыя групы Брэсцкай пагрангрупы, Пінскага, Полацкага, Смаргонскага, Лідскага, Гродзенскага пагранатрадаў.

Лепшая пошукавая група пагранвойскаў Беларусі – са Смаргонскага атрада (камандзір – лейтэнант **І. Міхееў**, ён стаў і лепшым следапытам). А лепшым інструктарам службовага сабакаводства прызнаны старшы сяржант **В. Захарыч**, таксама смаргонец.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Небяспеку ведаюць у твар

Шматлікіх пасажыраў мясцовага аўтавакзала прыцягвае не толькі крама, дзе прадаецца мінскі хлеб (завозяць яго з аднаго са сталічных хлебазаводаў). Многія пакупнікі і пасажыры прыпыняюцца каля шчыта "Акно ДАІ".

Бадай, самае адметнае на ім – ксеракопіі вадзіцельскіх пасведчанняў з фатаграфіямі тых, хто парушыў правілы дарожнага руху альбо знаходзіўся за рулём "пад мухай". Магчыма, гэтае новаўвядзенне мясцовых даішнікаў стане дапаўненнем да прафілактычнай работы сярод вадзіцеляў.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Трыместры замест чвэрцяў

У СШ №7 вырашылі навучальны год замест звыклых чвэрцяў падзяліць на трыместры.

Трыместр будзе доўжыцца тры месяцы, па выніках кожнага дзяцей будуць атэстоўваць. Канікулы застаюцца без змяненняў. Гэта прапанавала дырэктар школы **Вольга Малярэвіч**:

– ІІ чвэрць маленькая, і ў ёй складана аб'ектыўна ацаніць веды вучняў. ІІІ, наадварот, завялікая.

Ідэя дырэктара абмяркоўвалася сярод вучняў, бацькоў, настаўнікаў.

*Іна ВЯЗЕВІЧ.*

СМАРГОНЬ

## Вучыцеся гандляваць

Вынікі работы гандлёвых прадпрыемстваў камунальнай уласнасці разгледзеў райвыканкам. Разам з ростам аб'ёмаў гандлю гандлёвыя прадпрыемствы шмат запазычылі за спажытыя энергарэсурсы, па крэдытах, церпяць страты. Дзяржаўная гандлёвая структура "Сучаснік" дапусціла страты ад гандлёвай дзейнасці на суму амаль у паўтара мільярда рублёў.

Вырашана перадаць некалькі гарадскіх магазінаў іншым гаспадарам. Былы магазін дзяржаўнай фірмы "Пралеска" (сучасны двухпавярховы комплекс) перададзены МП "Ніва–ЗАС" аднайменнага аб'яднання – па праве лепшай гандлёва–закупачнай арганізацыі ў горадзе.

*Павел МАКЛЮК*

ВІЛЕЙКА

## Расцягнутае задавальненне

У раёне асноўныя прадукты харчавання размяркоўваюцца па спісах сельвыканкомаў.

У Хаценчыцкім сельвыканкоме вызначылі, што кілаграма цукру чалавеку дастаткова на тры месяцы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Чытайце газеты

285 мільёнаў рублёў выдаткаваў аддзел культуры райвыканкома на паўгадавую падпіску газет і часопісаў сваім бібліятэкам. Да гэтай сумы яшчэ 14,5 мільёна выдзеліла на падпіску–99 райаграпрамтэхніка.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ПАДМАН

# Хазанаў у Маладзечне

***МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні гараджане здзівіліся, а затым узрадаваліся – афішы, расклееныя на кожным кроку, абвяшчалі: "Вечар сатыры і гумару. Папулярны артыст эстрады і кіно Хазанаў". Толькі адзін дзень. Ва ўтульнай зале кінатэатра "Радзіма".***



*Апошні раз Генадзь Хазанаў наведаў Беларусь у студзені – даў два канцэрты ў Мінску. Сёння ж у яго і ў Маскве хапае спраў: кіруе ўласным тэатрам, будуе дом у Падмаскоўі.*

ФОТА З АРХІВА «РГ».

Зразумела, людзі спяшаліся па білеты. Праўда, насцярожвала, што каштуюць яны танна, не «па–хазанаўску» – ад 100 да 200 тысяч "зайцоў". Яшчэ за дзень да выступлення Генадзь Хазанаў удзельнічаў у канцэрце, прысвечаным Дню работнікаў расійскай міліцыі, які трансліраваўся па тэлебачанні. Няўжо артыст з Масквы адразу паляціць у Маладзечна?

Прыкладна так разважалі і работнікі міжраённага аддзела па арганізаванай злачыннасці і карупцыі. Вырашылі бліжэй пазнаёміцца з "народнымі артыстамі".

Артыст **Леанід Хазанаў** і яговы дырэктар **Аляксандр Пруднікаў** – па дакументах, жыхары Украіны. Прыехалі ад дзяржаўнай украінскай цыркавой студыі. Дагэтуль выступалі з канцэртамі ў Гомелі і Барысаве. На турнэ гастралёры мелі дазвол з Мінска. На афішыднай паперы стаяла гербавая пячатка, подпіс. Праўда, без прозвішча і пасады таго, хто гэты дазвол выдаў.

У дырэктара быў пашпарт савецкага ўзору, выдадзены ў 1994 годзе. Запоўнены з памылкамі шарыкавай ручкай. На той час, нагадаем, ужо даўно выпісваліся пашпарты ўкраінскія. І запаўняюцца такія дакументы заўсёды спецыяльным чарнілам.

У артыстаў знайшлі чатыры працоўныя кніжкі. У трох стаяць толькі пячаткі. У любы момант можна запісаць любыя пасады. Аляксандр Пруднікаў узяў на работу двух беларусаў: афішы расклейць, білеты распаўсюдзіць, на кантролі пастаяць. Ды і засяленне ў гасцініцу па беларускім пашпарце абыходзіцца значна танней.

У размове з работнікамі аддзела па арганізаванай злачыннасці, артысты прызналіся, што прайшлі "народныя ўніверсітэты". Леанід, праўда, сядзеў толькі адночы, а вось Аляксандр мае чатыры судзімасці. Можа, пасля гэтага ў Леаніда Хазанава пасведчанне аб другой групе інваліднасці?

Тым не менш, вечар сатыры і гумару адбыўся. Леанід (сцвярджаў, што ў іх з Генадзем адна маці, але розныя бацькі) чытаў маналогі, з якімі родны брат выступаў і выступае на вялікай эстрадзе.

– Ці не ўсё адно вам, які Хазанаў? – сказаў маім знаёмым дырэктар Пруднікаў, калі тыя прынеслі здаць білеты.

За гадзіну да выступлення на касе вісела шыльдачка: "Усе білеты прададзеныя". Само выступленне працягвалася паўтары гадзіны. Збітым з панталыку гледачам нічога не заставалася, як слухаць і пляскаць у далоні.

Людзі ў нас добразычлівыя. Тым больш, як значылася на афішах, усе грошы ад вечара паступяць у дабрачынны фонд. А само турнэ стала магчымым пры фінансавай падтрымцы маскоўскага аддзялення фірмы "Кола–кола".

*Васіль САВІЦКІ.*

80–ГОДДЗЕ САЮЗДРУКУ

***Невялікім па колькасці, пераважна жаночым калектывам Белсаюздруку жывецца складана. Прынцып "зарабіў – атрымаў" у гандлі газетамі, дробнай розніцай не надта аптымістычна гучыць. Тым не менш, Белсаюздрук працуе і, пераважна, з прыбыткам.***

# Газеты купляюць, ката Ваську кормяць



*МАЛАДЗЕЧНА. Ала АЧКАСАВА ў "Саюздруку" 10 год. Прыйшла з радыёзавода "Спадарожнік", дзе была мантажніцай. Цяпер працуе ў кіёску па вуліцы Ф. Скарыны.*

– Жыхары мікрараёна добразычлівыя, чулыя, – гаворыць кіяскёр. – Падыходзяць па газеты – вітаюцца. У большасці выпадкаў дзякуюць. Побач у падвале жыве кот Васька. Хітры, як агаладае, то дыслакуецца ля кіёска. Людзі і газету купяць, і Ваську заўсёды нечым пачастуюць.

**– Колькі звычайна газет купляюць за раз?**

– Звычайна, каб была праграма TV, а газета недарагая. Ёсць і прыхільнікі пэўных выданняў. Такіх ведаю ў твар. Чалавек толькі грошы дастане з кішэні, а я ўжо без слоў працягваю патрэбны экземпляр.

**– Ці пытаюцца, прыкладам, дзе напісана пра забеспячэнне горада яйкамі, маслам?**

– Перад тым, як сесці гандляваць, прэсу заўсёды праглядаю. Ну, а калі час ёсць, і пачытаю. Таму параду маю даць.

**– Якія найбольш прыемныя моманты падчас работы?**

– Калі незнаёмыя пытаюцца: "як здароўе?", "як жывяце?". Прыемна.

**– А людзі ля кіёска абмяркоўваюць прачытанае?**

– Хутчэй, на жыццё скардзяцца, абмяркоўваць няма чаго. Здзіўляюцца, да прыкладу: дзе ж тыя прадукты падзеліся?

*Васіль САВІЦКІ.*

ФОТА АЎТАРА.

Заканчэнне на 2–й стар.

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Звалкі

За мінулы тыдзень працягвае заставацца высокай захворваемасць вострымі рэспіраторнымі захворваннямі, зарэгістравана 904 выпадкі. Пра эпідэмію гаварыць рана, аднак прафілактычныя меры пакідаць без увагі не варта.

З надыходам халадоў пайшла на спад захворваемасць вострымі кішэчнымі інфекцыямі, за тыдзень зарэгістравана 12 выпадкаў. Адзінкавыя выпадкі зарэгістраваны ў дзіцячых садках №2 і №16.

Заканчэнне на 2–й стар.

ТАКТ ТАА "Такт" рэалізуе:
- Запасныя часткі, вузлы і агрэгаты да сельгасмашын.
- Шкло аконнае, шкло ўзорыстае.
- Шыны да аўта– і сельгасмашын.

Склад знаходзіцца па адрасе: Смаргонь, зав. Камсамольскі, д. 3 (раён аўтавакзала). Час работы: з 8–00 да 17–00. Абед з 13–00 да 14–00.
Тэл. у Смаргоні 33019, 22045, факс 21513.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



ПРЫВІТАННЕ, ШВЕЦЫЯ!

# Швед і кніга

**Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

Шведы любяць чытаць не толькі газеты. Маюць свае бібліятэкі, часта ходзяць у публічныя бібліятэкі. Бібліятэка Ліндэсберга фінансуецца з бюджэту камуны, мае 10 тысяч чытачоў, актыўных чытачоў- 5 тысяч. Працуе бібліятэка 6 дзён на тыдзень. У нядзелю выхадны- каб не плаціць за работу ў гэты дзень па двайным тарыфе. Газетная зала адчыняе свае дзверы ў 8 раніцы. Тут можна знайсці газеты з усёй краіны, нават самыя дробныя, якія выходзяць за сотні вёрст.

Найбольш актыўныя чытачы ва ўзросце 25- 45 год. Бібліятэка мае свае філіі. Адна з іх- на колах- бібліятэчны аўтобус. Аўтобус па спецыяльным графіку ездзіць па школах камуны. Сярэдні швед любіць чытаць дэтэктывы, раманы пра каханне. У бібліятэцы Ліндэсберга 100 тысяч кніг, фанатэка з кампактаў (18 тысяч штук) і магнітных плёнак, відэатэка. Ёсць кнігазбор для сляпых і дыслексікаў (нямых). Інвалід можа заказаць кнігу па пошце. Для наведвальніка - усё гэта бясплатна. На бібліятэку выдзяляецца з бюджэту камуны 1,4% яго працэнта.

Кнігі выдаюцца на месяц, часопісы- на 2 тыдні. За пратэрміноўку швед плаціць штраф. Дзеці ад штрафаў вызваленыя.

Колькі разоў на год чытачы сустракаюцца ў бібліятэцы з пісьменнікамі. Дарэчы, пісьменнікі Швецыі атрымліваюць заробак, велічыня якога залежыць ад частаты звароту чытачоў бібліятэк да кніг пэўнага аўтара.

Каб запісацца ў бібліятэку, дастаткова прад'явіць любое пасведчанне асобы (няхай сабе і вадзіцельскія правы). Дадзеныя аб табе адразу заносяцца ў камп'ютэр. Камп'ютэрызаваны і ўлік кніжнага фонду. Дарэчы, менавіта з бібліятэчнай камп'ютэрнай сеткі мы даведаліся, што ў Ліндэсбергу ёсць кніга Быкава «Кар'ер», зразумела, па-шведску, 1990 года выдання. На час нашага звароту кніга знаходзілася ў гімназіі.

Бібліятэка- не толькі месца выдачы кніг або чытальня. Тут працуе і школа для дарослых (аналаг нашай вячэрняй). Сюды можна прыйсці згуляць у шахматы, або камп'ютэрныя гульні. А калі вас заспее дождж, калі ласка, вазьміце бібліятэчны парасон, які пры наступным наведванні (але не пазней чым праз тыдзень) вернеце.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*



*На вуліцах Стакгольма*



*Кіраўнік нашай групы газетчык Кент Хальтунен не змог не зазірнуць падчас экскурсіі у бібліятэчны каталог: а што там новенькага?*



*Ва ўтульнай чытальні камунальнай бібліятэкі Ліндэсберга*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Ловяць самагоншчыкаў

ВАЛОЖЫН. У апошні рэйд супрацоўнікаў міліцыі па лясах у накірунках вёсак Вішнева, Пруднікі, Козлікі за вырабам самагонкі затрымалі 8 чалавек.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Ад"ядаўся на месцы

ВАЛОЖЫН. 14–гадовы ласун двойчы за трое сутак біў шыбы ў кулінарыі, што на Плошчы Свабоды, залазіў у памяшканне і частаваўся тортамі, пячэннем.

Рабіў гэта ноччу. Ад'ядаўся на месцы. Мяса, іншыя прадукты яго не цікавілі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Выпіў,... папялішча

ВІЛЕЙКА. Жыхар вёскі Журыхі Віктар Давідовіч прачнуўся ад таго, што агонь "лізаў" ягоны ложак. Пайшоў дасыпаць на сена.

А прачнуўся, калі жылы дом быў знішчаны агнём, вакол працавалі пажарныя, а бацькі ратавалі няхітры скарб. Прычынай трагедыі выступіў сам Віктар – на добрым падпітку лёг з цыгарэтай у ложак.

*Алена АЛЬФЕР, інспектар дзяржпажнагляду.*

## Масла пад днішчам

МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму ў адзін з боксаў ГК №12 на сартаванне прадуктаў трапілі работнікі аддзела па арганізаванай злачыннасці і карупцыі.

Гаспадыня гаража Ніна К і яе вадзіцель Валерый З., – беспрацоўныя. У спецыяльна прыстасаваную прастору пад днішчам мікрааўтобуса "Фольксваген–Транспарцёр" яны закладалі:

масла – 800 кг,
смятана – 81 кг,
кілбаса вараная "Шчара" – 20 кг,
кілбаса "Польская" – 35 кг,
малако сухое – 56 кг,
кілбаса паўвэнджаная – 20 кг,
сыр "Кастрамскі" – 31 кг,
сыр "Галандскі" – 17 кг,
рулет мясны – 14 кг.

Прадукты канфіскаваныя і накіраваныя ў дзяржаўны гандаль. Афіцыйныя беспрацоўныя расказалі, што прадукты купілі на Камароўцы – дзеля продажу за межамі горада.

*Васіль САВІЦКІ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 11.11 | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 18.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 230 | **210** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 151 | **152** |
| Селядзец | 1 кг | 194 | **159–210** |
| Рыс | 1 кг | 115 | **110** |
| Цукар | 1 кг | 75 | **72** |
| Грэчка | 1 кг | 92 | **90** |
| Алей | 1 л | 170 | **180** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 38 | – |
| Маянэз | 250 г | 45 | **48** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 220 | **240** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 70 | **75** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | **65** |
| Лімоны | 1кг | 235 | **235** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 60 | **70** |
| Масла | 1 кг | 160 | **165** |
| Тварог | 1 кг | 100 | **100** |
| Малако | 1,5 л | 30 | **30** |
| Бульба | 1 вядро | 80 (вял.) | **55 (мал.)** |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | – | **100** |

СПРАВА– Г...

## Маладзечна засталося без унітазаў

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак давялося аб'ехаць 9 магазінаў у пошуках звычайных "кампактаў". Два на гарадскім рынку, адзін ля нафтабазы, два фірмы "Алекор"... Карацей, усе магчымыя і немагчымыя адрасы. Было, страчваў нават надзею. Нідзе не знаходзіў гэтага тавару. **Святлана Чыжыкава**, дырэктар магазіна фірмы "Алекор", сказала, што ўнітазы трапілі ў разрад дэфіцыту. Нікому мы, беларусы, не патрэбныя са сваімі праблемамі. Айчынны вытворца – мінскі завод "Керамін" адпраўляе сваю прадукцыю на Расію.

Толькі ў краме "1000 дробязяў" блішчалі белымі бакамі ўнітазы па 2 мільёны 300 тысяч за камплект. Дарэчы, расійскія. Праўда, трэцясортныя. Як аказалася, адзін – прыгожы рэльефны- быў раскамплектаваны, другі, больш просты, апошні ў магазіне. Толькі перада мной шчаслівы ўладальнік перадапошняга ў Маладзечне ўнітаза адыходзіў ад касы. Я быў шчаслівейшым. Бо купіў апошні ў стотысячным горадзе ўнітаз.



Для тых, каго напаткала няшчасце і хто нецпадзявана разбіў малатком, якіываліўся з шафкі, свой унітаз, параю. Зайдзіце у краму "Алір", што месціцца ў новым Доме быту. Туды абяцалі завезці ўнітазы ў самым хуткім часе. Або памяняйце "кампакт" на звычайнае прыстасаванне для адпраўлення сваіх патрэб- з бачком уверсе. Такія ўнітазы ёсць у крамах на базары. Бачкоў няма...

*Якім ПЯРЭЧКА.*

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

## Бюджэт і падаткі

СМАРГОНЬ. За 10 месяцаў запазычанасць па плацяжах у бюджэт і дзяржаўныя мэтавыя бюджэтныя фонды склала 15551,4 мільёна рублёў.

Завінаваціліся прадпрыемствы Міністэрства прамысловасці – 10150 мільёнаў, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання – 4007,1 мільёна.

Найбольшую запазычанасць дапусцілі завод аптычнага станкабудавання – 9824,1 мільёна рублёў, калгасы "Савецкая Беларусь" – 818,5 мільёна, "Кушляны" – 540,3 мільёна, "Светлы шлях" – 543,5 мільёна, "Расія" – 486 мільёнаў, імя Ал. Неўскага – 486 мільёнаў.

*Павел МАКЛЮК.*

## Селядцы і зарплата

СМАРГОНЬ. Раённы аддзел статыстыкі паведаміў, што за верасень сярэдняя заработная плата склала 3604,4 тысячы рублёў. Гэта значыць, што адзін сярэднестатыстычны працаздольны жыхар Смаргоншчыны можа купіць за яе 18 кілаграмаў селядцоў або 12–15 кілаграмаў кілбас.

Вяскоўцам налічана значна менш – усяго 2793, 7 тысячы рублёў.

Настаўнікі атрымалі за верасень 3194,7 тысячы рублёў, работнікі сацыяльнага забеспячэння – увогуле 2944,2 тысячы рублёў.

Найбольш селядцоў ці кілбас на сваю вераснёўскую заработную плату маглі б набыць работнікі органаў крэдытавання і дзяржаўнага страхавання – па 40 і 30–35 кілаграмаў адпаведна. Гэта пры ўмове, што траціць на селядцы ці кілбасы ўсю зарплату, не браць пад увагу хлеб з батонам, соль ды цукар. Тэлевізар, халадзільнік, паліто, боты, пральная машына, мэбля, іншае пачакаюць.

*Павел МАКЛЮК.*

СІТУАЦЫЯ

## «Грамадзянскі форум» не адбыўся

АШМЯНЫ. У канцы верасня тут прайшоў устаноўчы сход пярвічнай арганізацыі МА "Грамадзянскі форум". У Выканаўчым сакратарыяце рэспубліканскай арганізацыі пярвічку зарэгістравалі як Ашмянскую раённую МА "Грамадзянскі форум".

Яшчэ праз тыдзень яе старшыня **Пётр Явідовіч** падаў дакументы для пастаноўкі арганізацыі на ўлік.

Пастаноўку на ўлік прызначылі на 22 кастрычніка, пра што паведамілі старшыні. Калі Явідовіч ў патрэбны час прыйшоў на выканком, то даведаўся, што рашэнне пытання адкладваецца на наступнае пасяджэнне: "Ашмянскі райвыканком паведамляе, што для рашэння Вашага пытання неабходна наведаць Упраўленне юстыцыі Гродзенскага аблвыканкома – галоўнага спецыяліста па ўліку палітычных партый і грамадскіх арганізацый Караткову Алену Валер'еўну".

**А. Караткова** у адпачынку, таму Явідовіч звярнуўся да намесніка старшыні выканкома **В. Лузінай**. Пытанне аб пастаноўцы арганізацыі на ўлік паабяцалі ўнесці на разгляд 12 лістапада. У сувязі з прыездам **А. Лукашэнкі** ў Ашмянскі раён на сустрэчу с прэзідэнтам Літвы, выканком перанеслі на 13.

У мінулую пятніцу члены выканкома азнаёміліся з дакументамі, пададзенымі для пастаноўкі "Грамадзянскага форуму" на ўлік. Старшыня выканкома **В. Пракопчык** завострыў увагу не на дакументах, звязаных з пастаноўкай арганізацыі на ўлік, а на дагаворы аб арэндзе памяшкання для размяшчэння кіруючых органаў арганізацыі. На падставе гэтага яе зноў не паставілі на ўлік у Ашмянскім райвыканкоме. На сёння тэрмін пастаноўкі арганізацыі на ўлік невядомы.

Па законе "Аб грамадскіх аб'яднаннях" грамадскя арганізацыя павінна быць пастаўленая на ўлік на працягу аднаго месяца, а гэты тэрмін скончыўся 1 лістапада.

*Аддзел інфармацыі.*

